# ІСКРА

№ 50 (8473)
СУБОТА
1
ЛІПЕНЯ
2000 г.
Выдаецца
з 1931 г.
Цана 25 рублёў

Газета ўзнагароджана
Ганаровай граматай
Вярхоўнага Савета БССР

Грамадска-палітычная газета Чавускага раёна


## 3 ліпеня – Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дзень Рэспублікі)

### *Паважаныя жыхары раёна!*

Прыміце самыя цёплыя віншаванні з Днём Незалежнасці (Днём Рэспублікі Беларусь) і 56-годдзем вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў!

Наш народ стагоддзямі шукаў шляхі да незалежнасці і суверэнітэту. Розныя гістарычныя падзеі адбываліся на гэтым шляху, але бадай ніколі так яскрава, як зараз, не праяўляліся прыкметы суверэнітэту: мы маем уласную Канстытуцыю і законы, свой голас у міжнароднай супольнасці, сваю армію і дзяржаўную сімволіку.

Беларускі ўрад бачыць сэнс незалежнасці ў тым, каб, развіваючы ўнутраныя магчымасці, стварыць умовы для заможнага і культурнага жыцця грамадзян, але не адмаўляцца і ад станоўчага вопыту іншых дзяржаў, наладжваючы з імі добрыя ўзаемаадносіны і ўзгадняючы інтарэсы.

Важкім крокам да незалежнасці нашага народа стала вызваленне Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. І глыбока сімвалічны той факт, што менавіта па волі народа, выказанай чатыры гады таму на рэспубліканскім рэферэндуме, абодва гэтыя святы мы адзначаем зараз у адзін дзень.

Паважаныя землякі!

Шчасця вам, дабрабыту, моцнага здароўя і здзяйснення ўсіх мар і надзей.

**Раённы выканаўчы камітэт.**
**Раённы Савет дэпутатаў.**

## СВЯТА З ГЛЫБОКІМ СЭНСАМ

**ДЗЕНЬ** незалежнасці як нацыянальнае свята адзначаецца ў многіх дзяржавах свету. Для нашай краіны – гэта свята маладое, як маладая і яе незалежнасць. Хоць элементы самастойнасці, але ў межах саюзнай дзяржавы, былі і ў часы СССР, усё ж сапраўдны суверэнітэт настаў для Беларусі пасля ўтварэння на прасторах былога Савецкага Саюза замест саюзных рэспублік асобных дзяржаў. Вось і мяркуй як расцэньваць тую гістарычную падзею…

Для кагосьці нашы развaжанні пакажуцца нават кашчуннымі, аднак куды ад фактаў падзенешся. Іншая справа, чым напаўняецца паняцце незалежнасці. Калі ад суверэнітэту нічога, акрамя беднасці, не маеш, то міжволі засумняваешся ў яго карысці. Калі ж нейкая супольнасць дае несумненную карысць, то чаго яе баяцца?

Беларусь – рэспубліка асаблівая, і гэта пацвярджаецца ўсёй яе навейшай перабудовачнай і пасляперабудовачнай гісторыяй. Мы не былі п'янымі ад той дзяржаўнай свабоды, якую давала ліквідацыя СССР, мы не спяшаліся кідацца з галавой у рэформы, мы бадай адзіныя, хто выбраў Прэзідэнта з народа, а не з палітычных эліт – былых ці новаствораных.

Прэзідэнт з народа, Аляксандр Лукашэнка, ён увесь час спрабаваў і спрабуе рашаць дзяржаўныя пытанні, апіраючыся на народ. Так было і са змяненнем даты святкавання Дня незалежнасці, які да гэтага адзначаўся ў Дзень прыняцця Дэкларацыі аб незалежнасці Вярхоўным Саветам Беларусі, якраз у тое чысло, калі ў час Вялікай Айчыннай вайны гаўляйтэр Кубэ падпісаў загад аб зацвярджэнні сімволікі беларускіх калабарантаў (чытай – здраднікаў народа), якія служылі акупантам. Хутчэй за ўсё, такое супадзенне было выпадковым, але яно глыбока раніла сэрцы сталых людзей, якія ведалі вайну не па кніжках, калі інфармацыя аб гэтым стала шырока вядомай. А такіх людзей на Беларусі шмат.

Вось чаму Прэзідэнт рашыў унесці на рэферэндум чацвёртым дадатковым пытаннем перанос святкавання Дня незалежнасці на 3 ліпеня – дзень вызвалення сталіцы Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Фашысцкая акупацыя была самым жудасным у гісторыі нашэсцем для нашай нацыі, таму дата вызвалення ад яго сталіцы-дзяржавы і ў савецкія часы лічылася знамянальнай. У сувязі з гэтым пярэчанні, што вызваленне сталіцы – гэта яшчэ не вызваленне ўсёй краіны, здаюцца неістотнымі. Усякае свята ў вялікай ступені з'яўляецца сімвалам і "бухгалтарскіх" падыходаў не церпіць.

У Чавускім раёне за перанос святкавання Дня незалежнасці выказаліся больш 90 працэнтаў выбаршчыкаў, якія прымалі ўдзел у галасаванні. Блізкія вынікі былі па ўсёй рэспубліцы. Такім чынам народ сам рашыў, калі быць галоўнаму святу.

Адметна, што і цяперашняе наша дзяржаўнае кіраўніцтва, і большасць грамадзян дзяржавы не ставяць незалежнасць самамэтай: маўляў, хай будзем беднымі, але затое з гонарам. Незалежнасць здаровымі сіламі нашага грамадства разумеецца як годнае суіснаванне з іншымі дзяржавамі, у тым ліку і заходнімі, як права нашага народа ўступаць ва ўзаемавыгадныя саюзы з мэтай павышэння дабрабыту нашых людзей, умацавання духоўных сувязяў паміж народамі.

З гэтага пункту гледжання не з'яўляецца пагрозай незалежнасці курс на стварэнне саюзнай дзяржавы з Расіяй. На ўсе жахлівыя чуткі, якія запускаюць праціўнікі такога саюза, кіраўніцтва Беларусі заяўляе, што не збіраецца рабіць Беларусь яшчэ адной губерніяй Расіі. Вядома, саюзны дагавор накладае ўзаемныя абавязкі на дзяржавы-ўдзельніцы, магчыма, кожная з іх паступіцца часткай свайго суверэнітэту. Але нельга забываць, што так бывае ва ўсіх міждзяржаўных утварэннях: і ў Еўрапейскім саюзе, і ў ваенна-палітычным блоку НАТО, і г.д. Дык чаму ў іх гэта не лічыцца стратай незалежнасці, а ў нас павінна лічыцца?

Наша маладая дзяржава выпрабоўваецца эканамічнымі і палітычнымі цяжкасцямі, мы жывем без заходніх крэдытаў, імкнемся сумленна разлічвацца з Расіяй за пастаўкі сыравіны і энерганосьбітаў. Словам, мы імкнемся быць дзяржавай, якой можна давяраць. А гэта шлях няпросты. І калі на ім узнікаюць складанасці, трэба разумець іх правільна. Эканоміка за год і нават за дзесяць год не робіцца, дзяржаве трэба час, каб трывала стаць на ногі.

Давайце ўсе разам набліжаць гэты момант, усведамляць сваю асабістую адказнасць за лёс Беларусі!

З Днём незалежнасці вас, дарагія сябры!

## СВЯТОЧНЫЯ МЕРАПРЫЕМСТВЫ

3 ліпеня на гарадскім стадыёне адбудзецца свята, прысвечанае Дню незалежнасці Рэспублікі Беларусь. У праграме свята:

– канцэрт калектыва Палаца культуры і тэхнікі Магілёўскага вытворчага аб'яднання "Хімвалакно";

– авіяцыйна-спартыўнае прадстаўленне;

– футбольны матч паміж камандай г.Чавусы і камандай футбольнага клуба Парламента і Урада Рэспублікі Беларусь "11 плюс". У складзе каманды: намеснік старшыні Палаты прадстаўнікоў РБ Канаплёў У.М., група дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, старшыня Дзяржкамітэта па авіяцыі, прэзідэнт Беларускай федэрацыі футбола Фёдараў Г.К., міністр спорту і турызму Рэспублікі Беларусь Ворсін Е.Л., першы намеснік міністра прадпрымальніцтва і інвестыцый Скорбеж А.А., намеснік міністра эканомікі Тур А.Н., былыя ігракі каманды "Дынама-Мінск", чэмпіёны СССР 1982 г. Ігар Гурыновіч, Іван Жэкю, Алег Аляксейчыкаў, Віктар Сокал, Уладзімір Мельнікаў і іншыя.

Пачатак свята ў 10.00.



Не так даўно Таццяна Аляксандраўна Анціпенка, якая загадвае магазінам № 14, што ў раёне чыгуначнага вакзала, прыняла ўдзел у рэспубліканскім сходзе з нагоды Міжнароднага дня кааперацыі, які адбыўся ў Мінску. Такога гонару яна і яшчэ некалькі работнікаў Чавускага райпа былі ўдастоены за добрыя працоўныя вынікі.

У сістэме спажыўкааперацыі Таццяна Аляксандраўна – з 1985 года. Пачынала вучаніцай прадаўца, затым працавала ў каапунівермазе, аб'яднанні грамадскага харчавання. На цяперашнім месцы работы яна – роўна год, але паспела ўжо зарэкамендаваць сябе добрым заўмагам, з павагай ставяцца да яе і пакупнікі, якіх у гэтай гандлёвай кропцы нямала.

По выніках мінулага года Т.А.Анціпенка ўзнагароджваецца Ганаровай граматай аблспажыўсаюза і райкома прафсаюза работнікаў спажыўкааперацыі.

**НА ЗДЫМКУ: Т.А.Анціпенка.**
**Фота В.ШУМАНСКАГА, Б.ЦЁХІНА (камп'ютэрная апрацоўка).**

**ШТОДНЯ** купляючы ў магазіне хлеб, мы наўрад ці ўспамінаем пра тых, чыімі стараннямі выраблены для нас гэты жыццёва неабходны прадукт. А між тым нялёгкая гэта справа – адстаяць змену ля гарачых печаў, ды яшчэ паклапаціцца, каб выпечка атрымалася якаснай (хаця апошняе ў большай ступені залежыць ад якасці мукі, чым ад працы хлебапёкаў).

Калектыў цэха, дзе выпякаецца хлеб, у асноўным жаночы. І ўзначальвае яго таксама жанчына – Надзея Аляксандраўна Краўцова, якая працуе майстрам. На камбінаце кааператыўнай прамысловасці яна працуе з 1984 года, заўсёды вызначалася стараннем, добрымі працоўнымі вынікамі, прынцыповасцю, бо як майстру, ёй даводзіцца кантраляваць работу падначаленых.



Надзея Аляксандраўна – адна з лепшых работніц камбіната. Яна неаднаразова адзначалася кіраўніцтвам райпа за выдатныя працоўныя вынікі.

**НА ЗДЫМКУ: Н.А.Краўцова.**
**Фота В.ШУМАНСКАГА, Б.ЦЁХІНА (камп'ютэрная апрацоўка).**

Да Міжнароднага дня кааперацыі

## ІНТАРЭСЫ СПАЖЫЎЦОЎ – НА ПЕРШЫМ ПЛАНЕ

Спажывецкая кааперацыя, работнікі якой адзначаюць у пачатку ліпеня сваё прафесійнае свята, з'яўляецца ў раёне адной з самых буйных арганізацый, прадстаўленых амаль тысячным працоўным калектывам і шматгаліновай гаспадаркай, у веданні якой – гандлёвая сетка, грамадскае харчаванне, нарыхтоўка сыравіны і ўласная вытворчасць. Напярэдадні свята мы сустрэліся са старшынёй райпа **А.В.Куляшовым**, каб пагутарыць аб тым, наколькі пасяхова працуе зараз галіна, якую ён узначальвае.

**– Як вядома, Аляксандр Віктаравіч, у апошнія гады спажыўкааперацыя раёна ўваходзіла ў пяцёрку лепшых па вобласці. Ці ўдалося захаваць ранейшыя пазіцыі за мінулы год і пачатак бягучага?**

– Леташнія прагнозныя паказчыкі сацыяльна-эканамічнага развіцця райпа былі больш сціплымі. Тэмп росту па вытворчасці тавараў народнага спажывання саставіў 101,9 працэнта, абароту па ўласнай вытворчасці – 109,8, нарыхтоўчага абароту – 110,9 працэнта. Амаль у 8,5 раза быў перавышаны ўзровень папярэдняга года па знешнеэканамічнай дзейнасці – за кошт бартэрнага абмену бульбы на муку, крупы і алей. Затое па рознічнаму тавараабароту не выйшлі на леташні рубеж. Як вынік – дванаццатае месца ў вобласці. Сёлета імкнемся папраўляць становішча і па шэрагу пазіцый ужо маем неблагія вынікі.

**– Чым можна растлумачыць часовы спад у галіне?**

– Мы – некамерцыйная арганізацыя, таму часта даводзіцца працаваць сабе ва ўрон дзеля выканання сацыяльнага заказу – гандлёвага абслугоўвання насельніцтва. А пакупніцкая здольнасць людзей падае на фоне няспыннага росту цэн. Да таго ж, у нашым веданні больш 30 дробных, заведама стратных магазінаў, якія абслугоўваюць па 100 і менш пакупнікоў і дзе даходы ад рэалізацыі тавараў не пакрываюць расходы на ўтрыманне гандлёвых кропак, транспартныя выдаткі і г.д.

Як вядома, адзіная ўласная грашовая крыніца нашага існавання – гандлёвая надбаўка, што за мінулы год складала ў сярэднім за месяц 20,4 працэнта, а за 5 месяцаў бягучага – 20,17. Дык вось, да нядаўняга часу толькі на выплату банкаўскіх працэнтаў за карыстанне крэдытам даводзілася затрачваць каля 15 працэнтаў ад сумы надбаўкі, 3-5 працэнтаў "з'ядалі" транспартныя расходы, каля 3 ішло на ўтрыманне асноўных сродкаў, розныя камунальныя плацяжы. Сёння банкаўская стаўка, напрыклад, знізілася са 175 працэнтаў у лютым да 100, але працягвае ўсё ж заставацца высокай.

Даволі цяжка зараз працаваць з прадпрыемствамі-манапалістамі, што пастаўляюць нам сацыяльна значымыя тавары – усюды патрабуюць перадаплату, часта даводзіцца браць на сябе выдаткі па завозу тавараў. Значныя страты нясе райпа і ад работы аўтамагазінаў (хаця сярэднямесячны тавараабарот па іх узрос сёлета больш як у два разы да леташняга), завозу прадуктаў дашкольным установам раёна і г.д.

Для пагашэння часткі гэтых страт прадугледжаны сродкі ў мясцовым бюджэце, але за студзень-май мы не атрымалі адтуль ніводнага рубля.

**– І тым не менш, трэба працаваць і думаць аб заўтрашнім дні…**

– Безумоўна. Мы па-ранейшаму імкнемся ўкараняць новыя формы і метады работы – праз умацаванне сваёй матэрыяльна-тэхнічнай базы, набыццё сучаснага гандлёва-тэхналагічнага абсталявання. За мінулы год рэканструявана і адрамантавана 44 магазіны, на што было затрачана 48,8 мільярда недэнамінаваных рублёў. Асобныя з іх прызнаны аблспажыўсаюзам узорнапаказальнымі. Укладзеныя ў гэту справу сродкі ўжо акупляюцца ростам тавараабароту.

На 7,9 мільярда "старых" рублёў было набыта за мінулы год гандлёвага і тэхналагічнага абсталявання (15 электронных вагаў, халадзільныя вітрыны і г.д.), два ізатэрмічных аўтамабілі і яшчэ адзін – сёлета.

Апраўдваюць сябе і такія формы актыўнага гандлю, як кірмашы, выстаўкі-продажы. За мінулы год іх праведзена 38, у выніку дадаткова было выручана ад рэалізацыі тавараў 64 мільярды "старых" рублёў.

У нашых бліжэйшых планах – рэканструкцыя ўніверсама № 1, капітальны рамонт шэрагу сельскіх магазінаў, арганізацыя на забойным пункце жывёлы паглыбленай апрацоўкі субпрадуктаў для забеспячэння сыравінай участка па вырабу ліверных каўбас і г.д.

Думаем і надалей расшыраць дэцэнтралізаваную закупку тавараў (за 5 месяцаў яна саставіла 16 працэнтаў ад агульнага тавараабароту), больш працаваць з пастаўшчыкамі напрамую.

**– З нагоды свята, Аляксандр Віктаравіч, хацелася б пачуць прозвішчы лепшых работнікаў раённай спажыўкааперацыі…**

– На жаль, немагчыма назваць усіх, хто заслугоўвае падзякі за добрую працу. А сярод лепшых – загадчыца магазіна № 14 Т.А.Анціпенка, якой хутка будзе ўручана Ганаровая грамата аблспажыўсаюза і абкома прафсаюза работнікаў спажыўкааперацыі, работніцы камбіната кааператыўнай прамысловасці Т.І.Антонава, Н.А.Краўцова, В.А.Астапенка, лепшая загадчыца магазіна па выніках мінулага года В.М.Шпакава (Радамля), Р.В.Лукоўская, якая загадвае магазінам "Яловае", повар Асінаўскай школы Л.П.Шашолка і інш.

**– Вашы пажаданні калектыву з нагоды свята…**

– І тым, хто працуе ў сістэме спажыўкааперацыі зараз, і нашым паважаным ветэранам, пайшчыкам, пакупнікам хочацца пажадаць моцнага здароўя, поспехаў, удачы і шчасця. А паколькі свята прафесійнае, то ўсім, хто мае да яго дачыненне – яшчэ і поспехаў у развіцці і ўмацаванні спажывецкай кааперацыі.

**Гутарку правяла**
**Н.КАЛЕСНІКАВА.**

**На доўгім і цярністым шляху да незалежнасці беларускаму народу давялося прайсці праз мноства выпрабаванняў, найбольш цяжкім з якіх была Вялікая Айчынная вайна. І перамога ў ёй яшчэ раз прадэманстравала нашу волю да свабоднага, незалежнага існавання. Але тое, што было адстаяна ў баях, трэба замацоўваць у мірным жыцці – праз развіццё эканомікі, стварэнне належных жыццёвых умоў для народа. Аб гэтым – і некаторыя матэрыялы нашай старонкі, прысвечанай Дню незалежнасці Рэспублікі Беларусь.**

**Мікола Салаўцоў**

## МОЙ РОДНЫ КРАЙ

Прымай маёй душы
прызнанне,
Мой беларускі, родны край,
Маю адданасць і каханне
На векі – вечныя прымай!
Ты даў мне гарт сваёй адвагі,
І веру ў лёс шчаслівы даў,
Твае і шрамы, і знявагі
Сягоння я ў душу ўвабраў...
З табой іду адной дарогай,
Знішчаю вэрхал і бядлам,
Твой смутак, радасць
і трывогу –
Як сын дзялю я папалам!
Калі ж на ростанях свабоды
Заўважу я варожы лік –
За шчасце роднага народа
Аддам далоні я пад цвік...
І ў хоры нашым шматгалосым
Убачу мора добрых рук...
І сэрцам я прыму Хрыстоса –
Майго збавіцеля ад мук...



## Мірнае неба – гэта нямала

У многія беларускія сем'і Вялікая Айчынная вайна прынесла страшнае гора – страту блізкіх людзей. А да Лялькоўвых з вёскі Пухнава яно пастукалася ажно тройчы, калі адна за адной прыйшлі пахаванкі на старэйшых братоў Васіля Сямёнавіча: першы, кадравы афіцэр, загінуў у баях пад Масквой, другі склаў галаву пры абароне Ленінграда, а трэцяга фашысцкая куля напаткала ў Днепрапятроўскай вобласці. Счарнела ад гора маці, у якой нават не было магчымасці паплакаць над роднымі магілкамі, якія раскідала вайна па розных кутках краіны.

Шаснаццацігадовы Васіль у 1941 годзе толькі скончыў сямігодку. Як ні хацелася бацькам аберагчы апошняга сына ад мабілізацыі, ён ірваўся на фронт, каб адпомсціць за смерць братоў. Такая магчымасць прадставілася хлопцу толькі ў верасні 1943 года, калі яму споўнілася васемнаццаць. Васіль Лялькоў трапіў у запасны полк 2-га Беларускага фронта, дзе разам з іншымі юнакамі прайшоў абучэнне ваеннай справе.

Першае баявое хрышчэнне ён прыняў у Чавускім раёне пад вёскай Скварск, дзе ў той час ішлі жорсткія кровапралітныя баі. Васілю Лялькову давялося ўдзельнічаць у захопе і ўтрыманні прылёпаўскага плацдарма ў снежні 1943 года, стаць сведкай прарыву нашых войскаў ля вёскі Будзіна, які ў многім вырашаў далейшы ход вайны. Малады баец атрымаў у гэты час сваю першую баявую ўзнагароду – медаль "За адвагу".

Цяжкае раненне больш як на 5 месяцаў прыкавала Васіля да бальнічнага ложка. Пасля выпіскі з Тбіліскага шпіталю вайна для салдата Лялькова ўжо закончылася. Яго накіравалі ў тыл, дзе давялося вырабляць снарады для фронта.

Дамоў Васіль Сямёнавіч вярнуўся праз 20 дзён пасля аб'яўлення Перамогі, інвалідам другой групы. Пачаў адбудоўваць дом, куды неўзабаве і перасяліліся разам з маці з зямлянкі. Працаваў агентам па мясапастаўках, у магазіне. Праз два гады сустрэўся з Нінай Афанасьеўнай Лазарэнка, стварыў уласную сям'ю. Абедзве дачкі, якіх вырасцілі з жонкай, абралі спецыяльнасць медыка, жывуць і працуюць у Магілёве. У дзядулі з бабуляй – пяцёра ўнукаў і ўжо нават тры праўнукі.

Ветэран В.С.Лялькоў не любіць скардзіцца на цяжкасці, хаця іх, як і ў любой сям'і, зараз нямала. Загартаваны вайной і пасляваеннымі выпрабаваннямі, ён лічыць сённяшнія праблемы вырашальнымі. Проста трэба не наракаць на жыццё, а любіць і цаніць яго, не забываючы, што мірнае неба над галавой – гэта ўжо нямала.

Напярэдадні Дня Перамогі Васілю Сямёнавічу, як інваліду вайны, быў выдзелены аўтамабіль "Ака", каля якога мы яго і сфатаграфавалі.

**Н.ГРЫГОР'ЕВА.**
**Фота В.ШУМАНСКАГА, Б.ЦЁХІНА (камп'ютэрная апрацоўка).**

## У чаканні добрых змен

Незалежнасць дзяржавы вызначаецца не толькі яе палітычнай самастойнасцю, але і ў немалой ступені эканамічнай, пры гэтым значную ролю адыгрывае стан аграпрамысловага комплекса. На працягу апошніх гадоў вёўся пошук новых падыходаў да вядзення сельгасвытворчасці – праз цэхавую сістэму, арэнду, гасразлік і г.д. Але пакуль існуе калектыўная ўласнасць, змена "шыльды" вынікаў не прынясе, таму з боку дзяржавы робяцца крокі па рэарганізацыі калгасаў. Было вырашана "ажывіць" у сялян пачуццё гаспадара з дапамогай змянення формы ўласнасці. Але пакуль сяляне дачакаюцца змен, трэба жыць і працаваць далей. Аб гэтым – наша размова з кіраўніком калгаса "Серп і молат" **М.М.Аддзельным**, які працуе на пасадзе старшыні ўжо больш за 20 гадоў.

**– Мікалай Мацвеевіч, калісьці калгас "Серп і молат" быў адным з мацнейшых у раёне. Як абстаяць справы сёння?**

– Мы знаходзімся ў складаным, амаль надзвычайным становішчы. Знос тэхнікі складае каля 85 працэнтаў, а тая, што яшчэ "на хаду" – маральна ўстарэла. Разам з тэхнікай "пастарэў" і калектыў. Моладзь у нашу глыбінку (ад райцэнтра больш за 20 кіламетраў) ідзе неахвотна. У гаспадарцы няма галоўнага інжынера, не хапае зааветспецыялістаў, даярак. Не хапае мінеральных угнаенняў, гаручазмазачных матэрыялаў, элітнага насення, сродкаў для аховы ўраджаю і г.д. Далёка не апошнюю ролю ў спадзе сельгасвытворчасці адыгралі дрэнныя ўмовы надвор'я ў апошнія два гады. Ды і нізкія закупачныя цэны на сельгаспрадукцыю на працягу некалькіх апошніх гадоў прывялі да такога становішча ў калгасах і саўгасе.

Але нягледзячы на ўсе складанасці, машынна-трактарны парк калгаса папоўніўся двума новымі трактарамі МТЗ-1221, у 1999 годзе і крыху раней – камбайнам "Дон-1500". Толькі набылі іх за кошт сродкаў дзяржбюджэту. А вось "Дон-1500" – на ўмовах лізінгу. Хацелася б набыць хоць адну адзінку корманарыхтоўчай тэхнікі. КСК-100, якіх у нас два, ужо "ва ўзросце" далёка не маладым – ім больш як па 8 гадоў, "Палессе" – не такі стары, але часта даводзіцца рамантаваць.

**– Ад нарыхтоўкі кармоў залежаць і справы ў жывёлагадоўлі ў зімоваастойлавы перыяд...**

– Пакуль больш займаемся нарыхтоўкай сена. Сянаж або сілас з-за няхваткі тэхнікі пачалі нарыхтоўваць сумесна з мехатрадам ААТ "Аграсервіс". Ёсць надзея і на добры ўраджай кукурузы, якой мы пасеялі 225 гектараў. Зараз на плошчах, дзе ўжо скасілі аднагадовыя травы, сеем рапс і проса. Заключылі дагавор з адной фірмай, якая забяспечыла нас элітным насеннем і сродкамі аховы. Пасеялі 50 гектараў. Усходы дружныя і спадзяемся на добры ўраджай.

Нядрэнна абстаяць справы ў жывёлагадоўлі. За 5 месяцаў выканалі план па вытворчасці малака на 104 працэнты. Дойны статак знаходзіцца на кругласутачнай пасьбе. Узрасла колькасць малака, закупляемага ў насельніцтва, у параўнанні з мінулагоднім, толькі за май больш чым на 500 кілаграмаў.

Калектыў гаспадаркі стараецца рабіць усё магчымае, каб захаваць сельгасвытворчасць ад развалу. Але далёка не ўсё залежыць ад сялян. І пакуль карэнным чынам не будуць перагледжаны адносіны да гэтай жыццёва важнай галіны, не аказана ёй надзейная падтрымка, не знойдзены больш эфектыўныя шляхі развіцця сельскай гаспадаркі, ніякая змена "шыльды" нам не дапаможа.

**Запісала Г.ДУХОЎСКАЯ.**

## ЗНАХОДЗІЦЬ ТОЙ, ХТО ШУКАЕ

**МЯРКУЮЧЫ** па значнаму скарачэнню аб'ёмаў сыравіны для ААТ "Чавускі масласырзавод", у выніку чаго нават летам "загружана" толькі трэцяя частка яго праектнай магутнасці, прадпрыемства гэта павінна было б сёння цярпець эканамічны крах – як шэраг іншых у перапрацоўчай галіне. Але ў адносінах да яго такі сумны прагноз не падыходзіць. Напрыклад, за 5 месяцаў бягучага года, маючы 93,1 працэнта малака ў параўнанні з леташнім, тут атрымалі на 10,5 працэнта больш таварнай прадукцыі ў супастаўных цэнах. Прыбытак ад рэалізацыі прадукцыі склаў за мінулы год 68 мільёнаў рублёў, за студзень-май гэтага года 19 мільёнаў – нават нягледзячы на тое, што вытворчасць цэльнамалочнай прадукцыі і масла сметанковага з-за фіксаваных цэн на іх сёння для завода стратная, а на складзе скапілася шмат тон незапатрабаваных пакуль на расійскім рынку цвёрдых сыроў, дзе з імі канкурыруе больш танная прадукцыя з Украіны і Прыбалтыкі.

Якім жа чынам выжывае прадпрыемства ў складаных сённяшніх умовах, і не проста выжывае, а лічыцца адным з лепшых па рэспубліцы ў малакаперапрацоўчай галіне, мае ўрадавыя ўзнагароды, з'яўляецца адзіным у вобласці, крэдытуючым сельскую гаспадарку раёна? Аб гэтым мы і вырашылі пагутарыць з яго дырэктарам **Рыгорам Макаравічам Іванчанкам**, наведаўшыся ў яго рабочы кабінет.

Прыемнае ўражанне пакідаў адміністратыўны будынак, што пасля нядаўняга еўрарамонту змяніўся да непазнавальнасці: усюды чысціня, утульнасць. Нават па гэтаму факту ўжо можна ў нейкай меры меркаваць аб заможнасці гаспадара, які знаходзіць сродкі, каб стварыць для сваіх работнікаў належныя ўмовы працы. Дык якую ж фінансавую "крыніцу" займела прадпрыемства, каб вось так бязбедна сёння існаваць?

– На працягу апошніх сямі гадоў мы займаемся тэхнічным пераўзбраеннем завода, – расказвае Рыгор Макаравіч. – Пачатковай задумкай было наладзіць пры дэфіцыце сыравіны яе безадходную перапрацоўку. І сёння мы гэтага ўжо дасягнулі. Так, з сыроваткі, што застаецца пасля варкі сыру, вырабляем малочны цукар, а з перагону (прадукт перапрацоўкі малака на масла) – казеін, за які спажыўцы разлічваюцца з намі валютай. (Дарэчы, казеінавая лінія ў нас акупілася за паўгода работы). Нядаўна пачалі перапрацоўваць у сябе і ўласны сырны брак – вырабляем з яго плаўлены сырок "Дружба".

Акрамя таго, вяліся пошукі такіх відаў прадукцыі, якія б давалі заводу максімальную грашовую аддачу з кожнай тоны сыравіны. Эканамічная служба падлічыла, што калі пры вырабе масла сметанковага выхад таварнай прадукцыі складае ў грашовым вылічэнні каля 4 мільёнаў, цэльнамалочнай прадукцыі – 6,2 мільёна рублёў, то ёгурт дае выхад 159 мільёнаў, сырок глазураваны – 79,6 мільёна. Выраб гэтых двух відаў прадукцыі, а таксама сыркоў тваражных ужо асвоены на прадпрыемстве. Працуе і лінія фасоўкі смятаны. Дадатковая вытворчасць перакрыла страты ад цэльнамалочнай прадукцыі і масла і дала, як ужо гаварылася, прыбытак заводу.

Больш таго, з адкрыццём участкаў па вытворчасці гэтай прадукцыі ўдалося максімальна захаваць калектыў, бо каля 20 чалавек у выніку "згортвання" асноўных відаў прадукцыі давялося б скарачаць. І калі ўжо працягваць размову аб занятасці, то варта сказаць аб арганізацыі на масласырзаводзе падсобнай вытворчасці (швейны і сталярны цэхі), дзе частка рабочых працуе ў міжсезонне, выконваючы заказы па пашыву спецадзення, вырабу сталяркі (усё драўлянае "аздабленне" для рамонту, прычым даволі высокай якасці і з таннага лесу, вырабілі заводскія столяры).

Як адзначыў Рыгор Макаравіч, на гэтым пошук шляхоў эфектыўнай работы прадпрыемства не завершаны. У бліжэйшы час сюды паступіць аўтамат па фасоўцы сметанковага масла. Прадумваліся варыянты ўкаранення вытворчасці, не звязанай з перапрацоўкай малака. Іх было некалькі, але выбар спынілі на вытворчасці цукерак, тым больш адзін з кампанентаў сыравіны (малочны цукар) – уласны, асвоена і тэхналогія работы з шакаладам пры вырабе глазураваных сыркоў. Цукерачная лінія будзе ўстаноўлена ў адным з пустуючых цэхаў, куды папярэдне трэба ўкласці 10-12 мільёнаў рублёў на яго аддзелку. Але каб закупіць гэта абсталяванне, трэба спачатку разлічыцца за лінію глазураваных сыркоў. У завода няма "спонсараў", усё даводзіцца аплачваць за кошт свайго прыбытку. Вядома, калі б не даўжнікі (каля 96 мільёнаў вінны прадпрыемству за адгружаную прадукцыю дзяржаўныя структуры і звыш 80 – іншыя дэбіторы), справы б рухаліся шпарчэй. Ды і ў самаго масласырзавода ёсць пэўная запазычанасць на сённяшні дзень за сыравіну перад калгасамі і насельніцтвам, якую ў бліжэйшы час трэба пагасіць.

Але грошы, вядома ж, справа нажыўная для тых, хто ўмее іх зарабляць. Галоўным жа багаццем завода яго кіраўнік лічыць працоўны калектыў. Амаль ва ўсіх рабочых – значны стаж работы на прадпрыемстве, багаты вопыт і ўмелыя рукі. З такім калектывам лёгка працаваць і многага можна дасягнуць. Сярод лепшых – старшы майстар па догляду сыроў Мікалай Вадзімавіч Качкоўскі, начальнік вытворчай лабараторыі Нэлі Пятроўна Машкоўская, галоўны энергетык Леанід Уладзіміравіч Шаўчук, сыраробка Людміла Васільеўна Бугаёва, майстар маслаïробчага цэха Таццяна Аляксееўна Леўшанка, сыраробка Святлана Іванаўна Старавойтава, слесар-рамонтнік Валерый Васільевіч Жлоба і многія іншыя.

На заводзе ўжо ўзнікла 17 працоўных дынастый, што сведчыць аб трываласці сувязяў, вернасці добрым традыцыям прадпрыемства. А значыць наперадзе яшчэ шмат працоўных поспехаў і ўсе задумы яго кіраўніцтва пры падтрымцы калектыва абавязкова здзейсняцца.

**Н.КАЛЕСНІКАВА.**

● **Падказана чытачамі**

## ХТО ПЛАЦІЦЬ ДВОЙЧЫ

Нядаўна давялося размаўляць з жыхарамі дома № 7 па вуліцы Азарава – шматпавярхоўкі, якая была здадзена ў эксплуатацыю 11 гадоў таму. Яны паскардзіліся, што ў час моцных касых дажджоў праз дрэнна заканапачаныя стыкі сценавых панэляў у кватэры трапляе вада. Ад сырасці адстаюць ад сцен шпалеры, чарнее столь, часам нават прамакаюць паласы на падлозе. Гэта не толькі псуе інтэр'ер і стварае для жыхароў нязручнасці, але і не спрыяе іх здароўю. Таму яны хацелі даведацца, хто і калі пазбавіць іх ад такой праблемы.

Пытанне жыхароў дома № 7 мы адрасавалі ў райжылкамунгас, бо прад'яўляць прэтэнзіі будаўнікам за яўна іх недаробкі наўрад ці рэальна праз столькі часу.

– Падобная карціна назіраецца сёння ў многіх панэльных дамах райцэнтра, – пацвердзіў дырэктар РВА ЖКГ **В.М.Сямашка**. – Хутчэй за ўсё замест спецыяльнай мастыкі пры задзелцы швоў паміж панэлямі выкарыстоўваўся цэментны раствор. Яго паступова вымывала, пакуль не ўтварыліся дзіркі. Сваімі сіламі якасна правесці такі рамонт райжылкамунгасу цяжка, бо для гэтага патрэбна вышка і адпаведныя спецыялісты. Летась мы запрашалі работнікаў адной магілёўскай фірмы, якія заканапацілі панэльныя стыкі ў шматкватэрных дамах на льнозаводскім пасёлку і па вуліцы Лермантава. Паўторных скаргаў ад іх жыхароў пакуль не паступала. Але зараз для разлікаў з падрадчыкам у нас няма грошай. Паколькі ж такіх заявак шмат, паспрабуем усё ж шукаць выйсце самі. Магчыма, удасца дамовіцца наконт аўтамабільнай вышкі з раёнам электрасетак або ПМК-278 (тым больш, яна сёння пільна патрэбна і для спілавання па гораду аварыйных дрэў). У першую чаргу будзем задавальняць тыя заяўкі, дзе становішча найбольш крытычнае. Хаця абяцаць, што ўдасца аператыўна зняць па панэльных дамах праблему "дзіравых сцен", не магу.

Памятаеце прымаўку пра скупога, які плаціць двойчы? Вось такіх жа дадатковых затрат патрабуюць таксама неахайнасць у рабоце, безгаспадарчасць і "аўральны" метад здачы аб'ектаў у эксплуатацыю, калі шэраг недаробкаў даводзіцца ўхіляць ўжо пасля падпісання акта прыёмкі. Няўжо мы настолькі багатыя, каб плаціць двойчы?

**Н.ПЯТРОВІЧ.**

